*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17 (556)** **1 ТРАЎНЯ 2002 г.**

## НАМ ТУТ ЖЫЦЬ

### передвелікодны "суботнік" па-беларуску



"Нам тут жыць" - такую назву атрымала акцыя, якую правялі ў Менску актывісты беларускага моладзевага аб'яднання "Новыя твары". Яны вырашылі прывесці ў парадак пасля зімы ўнікальнны прыродны куточак Менска -- "Музей валуноў". У гэтым парку сабрана каля дзвюх тысяч вялікіх камянёў, якія былі занесены на тэрыторыю Беларусі леднікамі мільёны гадоў таму.

Валанцёры, якія неабыякавыя да лёсу музея пад адкрытым небам, вывезлі смецце з яго тэрыторыі, разбілі ў парку газоны, пасадзілі дрэвы.

**На здымку:** актывісты Беларускага моладзевага аб'яднання "Новыя твары" прыбіраюць смецце ў "Музеі валуноў".

**Фота Віктара Талочкі, БелТА,**

Беларуская мова-
ТБМ

наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Сафро Марыя (Масква) – 5.000
2. Руткоўская Е.К (Менск) – 5.000
3. Выдавецтва "Хата" (Менск) – 10.000
4. Емельянцаў Барыс С. (Менск) – 5.000
5. Казлоўская Іна (Менск) – 1.000
6. Сапанка Святлана (Менск) – 600
7. Дзямід Мікола (Менск) – 10.000
8. Мельнікаў Мікола (Горадня) – 2.000
9. Кафедра беларускай мовы Віцебскага ДУ (Віцебск) – 11.000
10. Міхаіл Мясніковіч (Менск) – 1.000

# *З Вялікаднем, беларусы!*

## Духоўная падзея міжнароднага значэння

5 траўня а 12-й гадзіне ў Менскім касцёле святога Сымона і святой Алены ў прысутнасці вернікаў адбудзецца ўрачыстае ўнясенне ў храм фотакопіі на палатне памерам 436 см на 110 см Саван-Турынскай Плашчаніцы. Яе прывязуць з Італіі, дзе 28 красавіка ў Турынскім Кафедральным саборы адбылася багаслуж-ба, прымеркаваная да вялікай падзеі -- перадачы копіі Савана беларускаму народу. Суправаджаюць Плашчаніцу: святар з Рыма дон Кармелія, прафесар Эмануэла Маўрыцыя Марынелі, фатограф з Турына Альда Гуерэскі з жонкай, які меў гонар сфатаграваць сапраўлную Плашчаніцу. На сённяшні дзень у свеце ўсяго шэсць копій.

Пасля ўрачыстай сабornай Літургіі будзе расказана гісторыя Плашчаніцы і гісторыя яе прыбыцця ў Беларусь. А 17-й гадзіне з нагоды падзеі адбудзецца адкрытая канферэнцыя.

Саван-Турынская Плашчаніца -- унікальная гістарычная каштоўнасць. святыня ўсіх хрысціян. Плашчаніца закрывала акрываўленае, збічаванае, змучанае цела Сына Божага, Збаўцы нашых душ, і гэтая ж Плашчаніца бачыла хвалебнае Уваскрэшанне Езуса Хрыстуса, Пана нашага. Плашчаніца для кожнага з нас -- знак любові і згоды, даравання і міру, адзінства і надзеі.

***Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.***

## Віншуем з юбілеем

***Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе старшыню Гомельскай абласной арганізацыі Анатоля Бароўскага – журналіста, выкладчыка універсітэта, пісьменніка – з 60-годдзем ад дня народзінаў. Плёну Вам у творчай працы, поспехаў у выхаванні студэнцкай моладзі ды грамадскай працы на карысць Бацькаўшчыны.***

Анатоль Бароўскі нарадзіўся ў вёсцы Крушнікі на Мазыршчыне. Скончыў Мазырскі педагагічны інстытут, які даў пуцёўку ў самастойнае жыццё. І дзе б ні даводзілася працаваць, куды б ні закідваў лёс, ён заставаўся верным роднаму слову, якому прысвяціў усё сваё свядомае жыццё. Першая публікацыя пабачыла свет у 1963 годзе. Напачатку, як гэта ўласціва кожнай юначай натуры, былі вершы, некаторыя з якіх друкаваліся нават у акадэмічным часопісе "Полымя", але ўсё-такі Анатоль Бароўскі аддае перавагу прозе. Ён – аўтар шматлікіх публікацый, гумарэсак, апавяданняў, аповесцяў. Чарнобыль, прырода, экалогія – тэмы, якія найбольш хвалююць пісьменніка. Яго пяру належыць кніга пра родны Мазыр "Цвітуць над Прыпяццю сады", зборнікі апавяданняў і аповясцяў "Белы бусел – чорны цень: аповед пра энергетыкаў- ліквідатарау", "Каліна пад акном", "Азірніся ў каханні".

Анатоль Бароўскі актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Менавіта пад яго кіраўніцтвам была адноўлена і зарэгітравана абласная арганізацыя ТБМ, сябры якой атрымалі Пас-



ведчанні, выпісваюць "Наша слова", прымаюць актыўны удзел у адраджэнні роднага слова на Гомельшчыне. Анатоль Бароўскі – сталы аўтар газеты Таварыства.

***Наш кар.***

## ЮБІЛЕЙ ПАЭТА

***Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе Сяргея Панізьніка з юбілейным днём народзінаў і жадае ягонай няўрымслівай натуры здзяйснення ўсіх спадзяванняў і мараў. Жывіце, дарагі наш паэта і сябар, напоўніцу!***

Сябра ТБМ, паэт, перакладчык і грамадскі дзеяч Сяргей Пянізьнік сустракае сваё 60-годдзе ў росквіце творчых сіл. Ягоная малая Радзіма – Мёршчына. Тут, у вёсцы Бабышкі, ён нарадзіўся. У Лявонпальскай школе атрымаў сярэднюю адукацыю. Тут пачынаўся яго шлях у літаратуру. Першы верш Сяргея Панізьніка быў надрукаваны ў раённай газеце, калі будучаму паэту было сямнаццаць. Пазней – скончыў Магілёўскую медычную, а таксама Львоўскую вышэйшую ваенна-палітычную вучэльню СА і ВМФ. З 1967 па 1976 – ваенны журналіст. Служыў у Чэхаславакіі, потым – у Беларусі ў складзе Цэнтральнай групы войск. Быў



звольнены з арміі па абвінавачанні ў антысавецтызме, выключаны з КПСС і нейкі час нідзе не працаваў. Але як бы пакручаста ні складваўся ягоны лёс, ён быў і застаўся паэтам.

Сяргей Панізьнік – аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, у тым ліку і для дзяцей. Згадаем некаторыя з іх: "Адкуль вясёлка п'е воду". "Мы – грамацеі!", "Жыцень". "Стырно". "Слова на дабрыдзень". Пяру паэта належыць і дакументальная аповесць на ваенную тэматыку "Асвейская трагедыя". Ён – укладальнік унікальнай серыі кніг "Бацькаўшчына".

Сяргей Панізьнік даследуе беларуска-латышскія і беларуска-чэшскія культурныя сувязі. Ён – старшыня рады таварыства "Беларусь – Латвія" і намеснік старшыні сябрыны "Беларусь – Чэхія". У 1997 годзе ў серыі "Ад сэрца да сэрца" пабачыла свет яго кніга "Сустрэча роднасных сусветаў". Гэта зборнік перакладаў вершаў паэтаў народаў свету на беларускую мову і пераклады вершаў самога Сяргея Панізьніка. Паэт узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларусі за вялікі асабісты ўклад у развіццё і пашырэнне кантактаў паміж грамадкасцю Беларусі і сусветным супольніцтвам, а таксама медалём Францішка Скарыны.

***Ірына Ляксеева.***

### Сакратарыят ТБМ шчыра віншуе тых сяброў Таварыства, чые дні народзінаў прыпадаюць на травень, і зычыць ім далейшага вернага служэння Беларусі

Праўдзіна Віктара Аляксандравіча - 11.05.55
Бордака Уладзіміра Адамавіча – 01.05.48
Навасельскую Таццяну Уладзіміраўну – 15.05.65
Петрашкевіча Алеся Лявонавіча – 01.05.30
Грудзіну Аляксандра Пятровіча – 23.05.54
Катлярова Аляксандра Пятровіча – 01.05.42
Бабіча Юрыя Міхайлавіча – 07.05.66
Панізніка Сяргея Сцяпанавіча – 10.05.42
Бароўскага Анатоля Мікалаевіча – 12.05.42





# Княгіня Магдаліна -- дачка Беларусі

*"Усім службоўцам ужываць беларускую мову!"*
*Яе Светласць княгіня Магдаліна!*

Склаўся стэаратып, што пра духоўныя адродзіны нашага краю ў XIX стагоддзі рупілася адно пераважна дробная збяднелая шляхта, з якой паходзяць Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч – Цётка, браты Луцкевічы ды шмат іншых нашых



нацыянальных дзеячоў. І рэдка згадваюць, што пра адродзіны нашага краю рупіліся мецэнаты, буйныя землеўласнікі і землеўласніцы. Адной з іх была слаўная княгіня Магдаліна Радзівіліха.

Для Беларусі постаць яе легендарная. Пра яе шмат гаварылася, згадвалася, пісалася. Але то былі разрозненыя публікацыі, прысвечаныя тым ці іншым момантам яе жыцця. Спатрэбіўся час, каб знайшоўся той, хто пагарнуўся душой і адважыўся вярнуць з забыцця імя слаўнай княгіні. Ім стаўся журналіст-даследчык Віктар Хурсік. Родам ён якраз з мясцінаў, дзе колісь былі ўладанні славутай беларускай княгіні. З маладенства чуў пра яе. Пачутае сталася імпульсам да пошукаў у архівах, да сустрэч з сведкамі тых далёкіх часоў. "Даследчыцкая праца надзвычай цікавая. Чым больш працуеш, тым больш у яе ўцягваешся, - кажа аўтар "Белага лебедзя ў промнях славы". - А тым больш цікава даследаваць жыццёвы шлях такой самабытнай постаці, як Магдаліна Радзівіл, якая праз усё жыццё паслядоўна трымалася беларушчыны".

І не толькі трымалася гэтага сама, але патрабавала, каб у яе маёнтках усё жыццё ладзілася пабеларуску, нават справаводства. Яна паклапацілася, каб і школкі працавалі па-беларуску. Такія школкі княгіня завяла ў сваіх маёнтках неўзабаве пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Настаўніцамі там былі вядомыя Паўліна Мядзёлка і сястра Кастусі Буйлы – Міхаліна.

Беларускія школы ў Кухцічах і Жорнаўцы былі і ў пазнейшыя часы. Вось, прыкладам, што пісала газета "Вольная Беларусь" у кастрычніку 1918 года:

*"Па загаду вядомай ў нашым краю вялікай землеўласніцы княгіні М.Радзівіл у яе маёнтках вывешаны абвесткі, паводле якіх прапануецца ўсім службоўцам ужываць беларускую мову заміж польскае і расійскай."* У гэтым жа нумары пад загалоўкам "Беларускія школы на вёсцы" было напісана наступнае:

*"Коштам княгіні Радзівіл у Ігуменскім павеце адчынены тры беларускія пачатковыя школы, апрач таго чатыры школы намечаны да адкрыцця ў бліжэйшы час.*

*У м. Уздзе Ігуменскага павету памянёная землеўласніца адчыняе рамесленае вучылішча для сялянскіх дзяцей".*

Жыццё не песціла Магдаліну. У маладыя гады яна была выдадзена замуж за годнага ў бацькі старога польскага кавалера. Пасля яго смерці разам з маленькай дачушкай сталася непрызнанай у Варшаве і вярнулася на радзіму бацькі ў Беларусь. Ужо пасля таго, як дачка падрасла і выйшла замуж, сама Магдаліна сустрэла першае і адзінае ў сваім жыцці каханне. На шчасце, яно было ўзаемным: у яе закахаўся значна маладзейшы за яе прадстаўнік прускай галіны роду Радзівілаў, бліскучы вайсковец Мікалай. Ён усім сэрцам успрыняў духоўныя каштоўнасці, якімі жыла яго жонка. Яго Светласць князь Мікалай таксама шанаваў роднае слова, родныя традыцыі. На жаль, вайна рана звяла ў магілу выключна адважнага беларуса: Мікалай загінуў на пачатку вайны 1914 года ў адным з жорсткіх баёў. У развітальным слове азначалася: *"Ён любіў і простую беларускую мову і прычыніўся да яе пад'ёму і да адродзінаў беларускага народу".* Невыпадкова ж наша слынная паэтка Алаіза Пашкевіч – Цётка аtуліла князеву труну вянком з хвойных лапак, перавязаных беларускім паяском. Сярод розных іншых вянкоў - срэбраных,фарфоравых ён кідаўся ў вочы з вялікай нацыянальнай стужкаю з словамі: "Пухам табе, князь, зямелька ў тваёй роднай старонцы".

Княгіня, паводле слоў Віктара Хурсіка, лічыла, што Беларусь мае права на сваю дзяржаўнасць, але да гэтага яна павінна прыйсці эвалюцыйна, і, як магла, спрыяла беларускаму руху, фундавала сродкі на стыпендыі беларусам, на выданне беларускамоўных газет і часопісаў, на выданне беларускіх кніг. Менавіта на яе сродкі быў выдадзены славуты зборнік паэзіі Максіма Багдановіча "Вянок", Ядвігіна Ш. "Васількі", "Курганная кветка" К. Буйлы. На ўсіх іх значыцца адзін з самых старажытных родавых гербаў беларусаў, бацькоўскі герб Магдаліны – белы лебедзь. От чаму і Віктар Хурсік сваю кніжку назваў "Белы лебедзь у промнях славы".

У першым сказе свае прадмоўкі ад аўтара ён скажа: "У гісторыі Беларусі ёсць асобы, перад якімі адчуваеш сябе вінаватым. Усё жыццё яны прысвяцілі за Беларускую дзяржаўнасць, аднак пашаны на гэтай ніве не маюць". Да такіх асоб Віктар Хурсік адносіць і княгіню Магдаліну. Пэўную долю віны перад шаноўнай дзяячкай аўтар, напісаўшы кнігу, зняў, але зараз хай яе здымаюць і іншыя! Кніга спрыяе гэтаму. Яна багата ілюстравана. Амаль усе здымкі ў ёй публікуюцца ўпершыню і маюць сваю гісторыю. Прыемна глядзець на радзівілаўскія постаці, на абрысы іхніх маёнткаў. Ва ўсім гармонія і суладдзе. Слынная мецэнатка зналася з усімі больш-менш актыўнымі тагачаснымі беларускімі дзеячамі – Аляксандрам Уласавым, братамі Луцкевічамі, Раманам Скірмунтам, Эдвардам Вайніловічам. Усе яны, калі казаць жывым словам, не вылазілі з Магдалінінага маёнтку. Усе спадзяваліся на яе апеку, на яе дапамогу.

Сваю кніжку Віктар Хурсік выдаў саматугам, наклад яе ўсяго 200 асобнікаў. Дзвесці! Толькі дзвесце грамадзянаў Беларусі з дзесяці мільёнаў спазнаюць, хто такая княгіня Магдаліна з Жорнавак і Кухцічаў, і што значыць яе асоба для Беларусі. А што астатнія? Мусіць, гэтак па-ранейшаму будуць лічыць, што ў беларусаў нікога няма і не было. Адно толькі лапці. Але той, хто хоць толькі пагартае кніжку Віктара Хурсіка, рашуча і назаўсёды зменіць свой погляд на нашу гісторыю.

Паздароў, Божа, цябе, Віктар на новую цікавую даследніцкую працу. А даследавацъ нам ёсць што. Наша спадчына па-ранейшаму ляжыць аблогаю, і каб яе ўзрыхліць, нам трэба не адна сотня аратаў.

Будзь жа ім заўсёды, Віктар! Першая твая спроба не камяком, хоць дробных, непажаданых карэктарскіх асцюкоў у ёй і нямала. Гэта засмучае, нават раніць. Асабліва, калі на кнізе стаіць і маё імя, хто прызвычаіўся бачыць кнігу стэрыльна пісьменнай, граматычным узорам.

Кніга Віктара Хурсіка прызна сустрэта на роднай яму Асіповіччыне і асабліва ў тым яе абшары, дзе колісь былі ўладанні слыннай княгіні. Дзякуючы колішняму загадчыку аддзела адукацыі Івану Пузыну, зараз яна ёсць у кожнай школе раёна. Чуйна адгукнуўся і аддзел культуры райвыканкаму, які шмат працуе на ніве захавання беларускіх традыцый, творчасці, рамёстваў. Ён падтрымаў прапанову Віктара ўсталяваць на зруйнаванай сядзібе княгіні памятны знак. "Зразумела, знак - не самамэта. Важна выкарыстаць гэтую магчымасць для абуджэння цікаўнасці да краязнаўства, да праўдзівай гісторыі Беларусі, - лічыць аўтар "Белага лебедзя". Сам жа ён працягвае даследаванні, памнажае архіўныя матэрыялы. Днямі ім накіраваны запыты ў архіўныя ўстановы Польшчы і Швейцарыі, дзе Магдаліна правяла дзесяць гадоў свайго жыцця. Калі хтось мае якія невядомыя звесткі пра беларускую апякунку - паспрыяйма руплівому аўтару.

*Шчыра Ул. Содаль,*
*г. Менск*




## ДАВЕДКА

пра аўтара кнігі "Белы лебедзь у промнях славы" Віктара Хурсіка.

Нарадзіўся ў 1953 годзе ў сям'і чыгуначніка на станцыі Уборак чыгуначнай калейкі Верайцы-Градзянка, якую пабудаваў у 1911 годзе князь Мікалай Радзівіл. Хадзіў у школку за тры кіламетры ад сваёй станцыі ў Магдаліпіны Жорнаўкі. Даследуе нашу занядбаную спадчыну. Перад усімі самаахвярнікамі мінулых стагоддзяў пачувае якуюсь сваю віну за наша грамадства, якое гэтак мала цікавіцца мінуўшчынай. Як дарунак гэтаму грамадству напісаў і выдаў за свой конт ў 2001 годзе дзве першыя кніжкі – "Трагедыя белай гвардыі" і "Белы лебедзь у промнях славы". Як бачна з назваў неабыякавы старажытны нацыянальны колер.

Віктар мае дзвюх дочак. Меншая – Вольга, вучыцца ва ўніверсітэце. Таксама піша пакрысе. Не так даўно друкавала свае апавяданні ў часопісах "Маладосць" і "Першацвет".

Дачка Алена – архітэктар-дызайнер. Менавіта яна аформіла вокладку кніжкі "Белы лебедзь у промнях славы".

У 1993 годзе Віктар стварыў прыватную выдавецкую суполку "Пейто", якая выдала звыш двух дзесяткаў краязнаўчых кніг. Сярод іх кніга пра Барыса Кіта "Космас беларуса" Л. Савік, "Могілкі і пахаванні ў Навагрудку" М. Гайбы, кніжкі з краязнаўчымі даследаваннямі А. Карлюкевіча, творы М. Улашчыка і іншыя. Сярод іх - і серыя кніжачак пра вёскі: "Ведаць свой край Беларусь". У гэтай серыі выйшлі кніжкі Ул. Содаля "Карпілаўка", А. Махнача "Нізок", М. Карпенчанкі "Галоўчын" і іншыя (ужо выдадзена дзевяць назваў). Сама суполка існуе дзякуючы адданай працы Віктаравай жонкі – Алы, якая вядзе бухгалтарскі ўлік і выконвае вялікі аб'ём тэхнічнай працы з тэкстамі.

Як сам Віктар, так і яго сям'я, жывуць марамі аб адраджэнні духоўнай спадчыны і годнасці беларусаў.





# ПЕРШЫ ВЕРШ ПРА СВІРАНЫ

Шостага красавіка на радзіме Францішка Багушэвіча ў падвіленскіх Свіранах адбылося доўгачаканае ўшанаванне імя аўтара славутай "Дудкі Беларускай": усталяваны мемарыяльны знак. Усталяваны клопатам і рупнасцю Таварыства беларускай мовы Віленскага краю.

Імя Францішка даўно прасілася на ўшанаванне ў Свіранах. Але доўга не знаходзілася ані на Віленшчыне, ані на Беларусі такіх апантаных людзей, як Юрась Гіль. Але от нарэшце Свіраны на 162-ой гадавіне з дня народзінаў нашага слыннага песьняра праз рупнасць віленскіх самаахвярнікаў і за згодай летувісцкай улады прычакалі ўшанавання імя слыннага свіранца. З гэтай нагоды на паэтавай радзіме прагучаў першы за ўсю існасць Свіранаў верш, прысвечаны гэтаму слыннаму куточку.

*Калыска паэта – фальварак Сьвіраны,*
*Скажу я вам людзцы –*
*тут пуп закапаны.*
*Французь тут радзіўся,*
*У Рукойнах хрысьціўся,*
*А ў Вільні вучыўся.*
*Ён наш, ён тутэйшы, ліцьвін-беларус.*
*Свіраны-Рукойны-*
*Кушляны-Жупраны...*
*Фальваркі, мястэчкі...*
*На сэрцы крывавяцца раны*
*Памёр у Кушлянах,*
*Ляжыць у Жупранах,*
*А жыве ў Свіранах.*
*Яму тут і гонар, і наша пашана,*
*А ў сэрцы шчыміць,*
*бы адкрылася рана.*
*Аман.*

Аўтар гэтага верша з дарагімі нашаму сэрцу назовамі ніхто іншы, як сам старшыня Таварыства беларускай мовы Віленскага краю Юрась Гіль. Згаданы верш – першы пра Свіраны. Дагэтуль ніхто з нашых паэтаў не пісаў вершаў пра Свіраны. Гэта верш – нібыта адмысловая візітоўка пра самыя дарагія Багушэвічавы мясціны. Якраз з гэтага верша і пачалася літаратурная імпрэза ў Свіранах. На гэтай жа імпрэзе прагучалі і іншыя вершы і згадкі пра Францішка Багушэвіча, пра родную зямлю, пра вернасць і адданасць ёй. Пра Францішка Багушэвіча згадвалі госці з Менску, актывісты віленскага Таварыства беларускай мовы: Леакадзія Мілаш, Алег Мінкін, лекар Станіслаў Міхна ды іншыя. З цікавасцю на Багушэвічавай імпрэзе паслухалі народныя вершы свіранскага электрыка Адольфа Казіміра Вурынскага. Уся імпрэза ладзілася пад спеў ў небе свіранскага жаўрунка, пры мемарыяльнай дошцы з выявю Францішка Багушэвіча.

Зараз на радзіме Францішка Багушэвіча дзве памятныя дошкі пра слыннага свіранца. Адна ў саміх Свіранах, другая – ў суседніх Савічунах на будынку бібліятэкі. Кожная з гэтых памятак – гэта нібыта святыя абразы. На іх не грэх і маліцца. Абедзве яны і асвечаны. Абедзве будуць выпраменьваць добрую энергію на тутэйшы люд.

У Савічунах імем аўтара "Дудкі Беларускай" названа і адна з вуліц, якраз тая, на якой Савічунская бібліятэка. Адным сваім тарцом з шыльдачкай яна глядзіць з прыгорка на Свіраны.

Свіраны – святая зямля для беларусаў. Але не толькі для іх, а і для ўсяго нашага суседства, для ўсяго славянства. Я пэўны: усталяванне ў Свіранах памятных знакаў у гонар Францішка Багушэвіча зменіць жыццё тутэйшага люду, зробіць яго больш змястоўным, весялейшым. Падвіленскія Свіраны, Савічуны Рукойны ды іншыя да іх прылеглыя вёскі і вёсачкі будуць духоўна пачуваць сябе далучанымі да нашай краіны, краіны Беларусь, параднёнымі з Багушэвічавымі Кушлянамі і Жупранамі. Яно гэтак і павінна быць у цывілізаваных краінах. Хай жа над Свіранамі ніколі не перастае гучаць беларуская дудка, бо калі дудка грае, - жывы і Мацей Бурачок. Жывы і той люд, за які ён хваляваўся, турбаваўся.

А тым часам віленскія беларусы думаюць пра ўшанаванне Багушэвічавага імя, і ў Рукойнах, у рукойнскім касцёле, дзе хрысцілі будучага абаронцу Беларусі, заступніка за Беларусь. Не мінайце ж, браткі-беларусы, вандруючы ў Вільню на сваіх аўто, Свіраны, Рукойны, Савічуны. Там будзе вам зараз да чаго прычасціцца. Гэта і недалёка, пры тракце. Паміж іншым, не так даўно і беларуская сталіца ўшанавала імя Францішка Багушэвіча. Ягоным імем названа плошча ля Тэатра музычнай камэдыі. А яшчэ трохі раней ягоным імем назвалі сталічную бібліятэку "Юнацтва".

*Уладзімір Содаль.*



**Асвячэнне свіранскай памяткі. Асвячае памятную дошку ўніяцкі святар ксёндз Ян Доўшкіс 6 красавіка 2002 г.**
**Памятная табліца ўстаноўлена на хаце Філіповічаў, якая пры самай дарозе і заўважаецца кожным, хто тут паблізу ідзе ці едзе.**




**Знак пра народзіны Францішка Багушэвіча ў Свіранах. Мемарыяльны знак пра народзіны Францішка Багушэвіча ў Свіранах. Усталяваны 6 красавіка 2002 года клопатамі і рупнасцю сяброў Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. Тэкст на табліцы па-беларуску лацінкай (гэтак жа пісаў і друкаваў свае творы Фр. Багушэвіч. Бел-чырвона-белую харугвачку пад дошку выткала віленская расіянка Шура Лучова. Яна ж ахвяравала і выяву галавы Хрыста для памятнай дошкі.**



**Свіранскі ставок.**
***"Дарагі той куток,***
***Дзе рэзалі пупок..."***



***Стары свіранскі куточак з старасвецкай ліпай і гэткай жа старасвецкай пуняй пад ёй.***




**Згадкі пра Францішка Багушэвіча пры мемарыяльнай дошцы на Савічунскай бібліятэцы. Прыгожы верш пра бацьку беларускага адраджэння чытае старшыня Таварыства беларускай мовы Юрась Гіль 6 . 4. 20002 г.**

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны смуткуе з прычыны заўчаснай смерці Ігара Германчука і шчыра спачувае сям'і, яго родным і блізкім.**

**На вялікі жаль, цяжкая хвароба зарана абарвала жыццё аднаго з самых адданых сыноў беларускага народу, грамадскага дзеяча, палітыка, аднаго з заснавальнікаў і рэдактараў газеты "Свабода", самаахвярнага змагара за незалежнасць Беларусі.**

**Ледзь не штогод Беларусь губляе лепшых людзей, што прысвяцілі сябе святой справе нацыянальнага адраджэння.**

**Памяць пра Ігара Германчука назаўжды застанецца ў сэрцах усіх, хто яго ведаў.**

# Час усё адкрые...

Алесь Петрашкевіч

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

**Нікан.** Сабака! Ягуар! Шакал смярдзючы!

**Шарамеццеў** *(заахвочаны словамі Нікана).* І гэты здрайца яшчэ апраўдвацца *(зачытвае з аркуша)*: "...Разумееў я, што твая вайна (гэта значыць ваша вайна, ваша вялікасць і ваша свяцейшаства) павінна быць вызвольнаю ўціснёнай Русі, або прыняць суцішэнне, як ад гаспадара хрысціянскага; ажно замест абяцанага такое ж рабаванне дамоў Боскіх, што і ад татараў бывала: хрысціян нашых, якія ў штодзённым праследаванні ад уніятаў былі, цяпер іх у вечную няволю забралі, а іншых замучылі. Я хоць і быў у добрай міласці царскай, аднак глядзець на няволю было цяжка, не толькі свецкіх, але і духоўных нашых забралі ў няволю, і ў лепшай вольнасці раней за ляхамі былі, чым цяпер жывуць нашы. А што маё войска бачыла, якія ліхадзействы над сумленнымі жонкамі і дзяўчаткамі чынілі. Гэтаму няхай сам пан Бог будзе паметай".

**Аляксей Міхайлавіч** *(у злосці).* Хопіць! Хопіць!..

**Нікан.** Сапраўды, ваявода. Трэба ж думаць, пра што дакладваць, а пра што і змаўчаць...

**Шарамеццеў** *(перапалоханы).* Даруйце! Дзеля ўсіх святых даруйце... *(Падае на калені).*

**Аляксей Міхайлавіч** *(скрозь зубы ў вялікай памслівай злосці).* Дык вось, ваявода Шарамеццеў, сам запомні і іншым ваяводам і важарам войска мой загад данясі: тых зладзеюнаў, ад каго здрады чакаюць, загадалі б у вязніцы саджаць і высылаць іх да нас начным часам, каб пра гэта хутка не было вядома, а калі чакаюцца ад шляхты і мяшчан здрады, калі пасылаць іх нельга і ехаць яны да Масковіі не захочуць, дык пасылайце звязаных; калі ж здрады або яшчэ горшага ад іх чакаюць, дык па самай апошняй меры загадайце секчы, вешаць, абразаць ім насы і вушы і адпускаць дзеля таго, каб на тое глядзячы не хацелася б зладзействаваць і ў шышах хадзіць.

А магчымых ворагаў пабіваць, колькі міласэрдны Бог помачы падасць.

**Шарамеццеў** *(па'дае з ліслівасцю, як падарунак).* Вялікі гасудар, гэта намі ўжо робіцца і ў памерах незлічоных! Дарогі ж на Усход літаральна ператварыліся ў сапраўдны крывавы няволніцкі шлях. Многія тысячы беларусцаў каталіцкай і праваслаўнай веры днямі і начамі звязанымі ці скаванымі валакуцца ў Маскву, як той Марка да пеклу.

**Аляксей Міхайлавіч.** Сам помні і іншым ваяводам перакажы ўхвалу і падзяку маю царскую за стараннасць у вайне. *(Да Нікана.)* Спадзяюся, што патрыярх падтрымае маю падзяку ратнікам і мае далейшыя царскія намеры!

**Нікан.** Як не атрымалася з беларусцамі па-добраму, па-хрысціянску, то я бласлаўляю вялікага гасудара і яго воінства на самыя жорсткія меры не толькі супраць ворагаў яўных, але і ўсіх магчымых, што яшчэ могуць стрэцца на нашым праведным шляху у барацьбе за веру праваслаўную ва Украіне і на Белай Русі.

**Аляксей Міхайлавіч.** Усё, ваявода! Адпускаю цябе з мірам. Сам старайся і іншым накажы!

*Шарамецееў б'е паклон да падлогі і выпаўзае за царскія дзверы на карачках.*

Днямі абвяшчу новы паход.

**Нікан** *(падымае рукі да неба).* Дабраславі, вялікі Божа... "К Вильно и Оршаве"!

**Аляксей Міхайлавіч.** І не праваслаўных буду я "вызваляць" у Княстве. Дык ці варта нам, патрыярх, як і ваяводам нашым прыкідвацца. Пайшлі дык і ўдзем заваёўваць і Княства і Каралеўства; і не прыстала цару і патрыярху хаваць сваіх адносінаў як да ляхаў, так і да беларусцаў — непрыяцелі яны нам, а непрыяцеляў — пад меч!

**Нікан.** Згода, вялікі гасудар. Але...

**Аляксей Міхайлавіч.** Што але?..

**Нікан.** Трэба рыхтаваць вайну і Швецыі.

**Аляксей Міхайлавіч** *(здзіўлена).* Як... Не скончыўшы адну, увязвацца ў другую?..

**Нікан.** Менавіта так. І толькі так! Не хто іншы, а суседка наша Швецыя каснее ў бязбожным пратэстанстве.

**Аляксей Міхайлавіч.** Але ж гэта яшчэ не падстава да вайны.

**Нікан.** Былі у мяне паслы ад Свяшчэннай Рымскай імперыі, а дакладней з каталіцкай Аўстрыі, якая прапануе саюз хрысціянскіх гасудароў у які ўвайшла б Аўстрыя, заваяваная намі Рэч Паспалітая ды Масковія, якія спачатку пойдуць супраць Швецыі, а потым і супраць Турцыі. Пры перамозе нашага слаўнага саюзу над туркамі, за намі застанецца праваслаўныя Малдавія і Валахія. Ёсць у мяне такая святая дамова.

**Аляксей Міхайлавіч.** Стой! Стой! Стой! Гэтыя курачкі яшчэ ў гняздзе...

**Нікан.** Стаяць больш нельга, мой гасудар! Бо час не церпіць і мы можам упусціць курачак, што сядзяць на залатых яйках.

**Аляксей Міхайлавіч** *(з сумневам).* Ты так лічыш?

**Нікан.** Лічу, вялікі гасудар! І Бог нам паможа!..

*Сцэна зацямняецца.*

### IX

*Каралеўская палата. Ян Казімір на пасадзе. Перад ім Януш Радзівіл, Вінцэнт Гансеўскі і Юры Тышкевіч.*

**Ян Казімір** *(і ў злосці, і у роспачы).* Магілёў не ўзяты, хоць там, кажуць, ад голаду, хвароб і адсутнасці вады памерла 14 тысяч чалавек. Ваяводскія сталіцы Полацк і Віцебск застаюцца ў руках ворага. Цар абвясціў другі "государев поход" на Вялікае Княства.

**Радзівіл.** Кароль памыляецца. Цар абвясціў другі паход на Рэч Паспалітую.

**Ян Казімір** *(не слухае).* А вялікі гетман вырашыў падаць мне зімнюю кампанію, як вялікі трыюмф. Наладзіў урачысты ўезд у Варшаву. Правёў па вуліцах палонных маскалёў. Захопленыя харугвы ворага кінуў да маіх ног. Каму трэба гэты шпектакль. Мы церпім паразу за паразай. У чым справа, гетман?!

**Радзівіл.** Паразы церпім не *мы* з вамі, ваша мосць, а я. І яшчэ Рэч Паспалітая двух народаў. А ўся справа ў тым, што Польшча, як не дапамагала, так і не дапамагае і не *мне*, а Вялікаму княству.

**Ян Казімір.** Рэч Паспалітая не можа разарвацца! Як вялікі стратэг Радзівіл не можа гэтага зразумець.

**Радзівіл.** Рэчы Паспалітай зусім нявартa было ўвязвацца ў вайну з Украінай, а мяне з войскам прывязваць да гэтай вайны, калі я павінен быў выкарыстаць зімовы час на падрыхтоўку да другога "государева похода" і цяпер ужо не толькі на "Вільно", але і на "Оршаву". І тым не менш, мае аддзелы і зімою штурмавалі абложаны Віцебск, дзейнічалі ў ваколіцах Полацка і Дзісны, трымалі Стары Быхаў, Дуброўну, Воршу, Копысь, кантралявалі наваколле Магілёва, Крычава, Мсціслава.

**Ян Казімір** *(вельмі зморана).* Памаўчы, Януш... Перад табой жа як-ніяк, а кароль...

**Радзівіл.** Я памаўчу, але няхай тут, у Варшаве мае найлепшыя чыннасці не тлумачацца наадварот.

**Ян Казімір.** Панове, шаноўныя мае памочнікі, прыхільнікі і антаганісты, для Рэчы Паспалітай сапраўды настаў найтрагічнейшы час. Дзяржава двух народаў сапраўды на краю пагібелі. Я паклікаў вас, каб параіцца, што рабіць. Дзе выйсце? Ці яго ўжо наогул няма?.. Цар патрабуе поўнай капітуляцыі Вялікага княства...

**Тышкевіч.** Ваша каралеўская вялікасць, мне здаецца, што выхад у мірных перамовах з царом.

**Ян Казімір.** Навошта цару гандлявацца, калі яго войска ўжо падыходзіць да Вільні. А будзе ў Вільні, то будзе і ў Варшаве. Толькі не кажы, Януш, што ты ўжо пра гэта папярэджваў мяне.

**Радзівіл.** Я скажу пра іншае, але ці не будзе якраз гэта паратункам і для Княства, і для Каралеўства?..

**Ян Казімір.** Кажы...

**Радзівіл.** У абставінах, што склаліся, а яны сапраўды трагічныя, трэба яснавяльможнаму каралю Рэчы Паспалітай выракчыся, адмовіцца ад пустога тытулу караля шведскага, памірыцца з сваякамі Вазамі і заключыць з каралём Карлам Х Густавам вайсковы саюз супраць Масковіі.

**Ян Казімір** *(да Гансеўскага).* Твая думка, гетман польны.

**Гансеўскі.** У гэтых варунках я згодны з маім антаганістам.

**Ян Казімір.** Святы ойча?..

**Тышкевіч.** Яснавяльможны, мудры, міласцівы кароль, я бласлаавіў бы цябе на гэты мужны шаг, паколькі іншага выйсця ці няма, ці я яго не бачу.

**Ян Казімір.** Становішча маё і дзяржавы нашай аказалася яшчэ больш трагічным, бо вы ўсе трое і разам мне здрадзілі. Так, здрадзілі... Але сёння для мяне аднадушная парада ваша ужо бескарысная. Кароль Швецыі Карл Х Густаў аб'явіў мне вайну.

*Усталёўваецца доўгая цішыня.*

**Тышкевіч** *(жагнаецца).* Пан Бог, праведны і міласэрны, абарані і памілуй людзі твая...

*Сцэна зацямняецца.*

### X

*Сціплы, але з густам абсталёны пакой. У ім — двое: Януш Радзівіл і Радзівіл Багуслаў.*

**Радзівіл Багуслаў** *(усхвалявана).* Януш! Брат мой любы! Ты не пераможаш ні караля, ні Польшчу, а сябе загубіш. Тое, на што ты пайшоў з Швецыяй, яны табе не даруюць!

**Радзівіл.** Я гэта ведаю, Багуслаў. А яшчэ ведаю, што палякі, бадай што, без бою здадуць Польшчу шведам. А кароль Ян Казімір, каб і хацеў, то ўжо ні сёння, ні ў будучым не здолее дапамагчы Княству. А ці не я хацеў, каб два шведы Вазы прымірыліся, а Польшча ў саюзе са Швецыяй выступілі супраць Масковіі, чым і ўратавалі б не толькі Вялікае Княства, але і Польшчу. Але што сёння гаварыць пра гэта, калі і Масковія і Швецыя сёння супраць усёй Рэчы Паспалітай. А яшчэ ў траўні шведскія паслы прапаноўвалі ўжо цару падзяліць Вялікае Княства паміж Швецыяй і Масковіяй. Цар спачатку падтрымаў гэту прапанову. Але хаўруснікі не змаглі дамовіцца, каму колькі дастанецца. І цар вырашыў не ўступаць сваю здабычу ў Княстве, бо марыць аб здабычы ў Каралеўстве. Ці не таму Карл Густаў і паспяшаўся напасці на Польшчу, каб апярэдзіць "тишайшего". На Вялікую Польшчу ён кінуў дзве арміі — у 14 тысяч на чале з палявым маршалам Вітэнбергам і другую больш за 12 тысяч — узначаліў сам. Яны ідуць па Польшчы бы на парадзе.

**Радзівіл Багуслаў.** Не разумею, чаму Вялікая Польшча проста капітулюе?! Нават правадыры рушэння прызнаюць Карла Густава сваім уладаром і здаюцца без бою!..

**Радзівіл.** Вялікая Польшча, выматаная вайной за Украіну, аказалася яшчэ больш слабай і бездапаможнай, чым гэта здавалася раней.

**Радзівіл Багуслаў.** Але ж важары і тваіх войскаў здаюць шведам гарады Княства таксама без бою. І ты пабачыш, як Ян Казімір яшчэ дамовіцца са сваяком Карлам Густавам, а цябе абвінавацяць ў згодніцтве з ім жа. Тады табе не пазбегнуць суда і смерці за здраду.

**Радзівіл.** Я не ішоў на згодніцтва, не змаўляўся са шведамі супраць Польшчы і яе караля. Я і цяпер гэтага не раблю. Толькі пасля нападу шведаў і на Княства, і на каралеўства я ўступіў з імі ў перамовы. Вядома, пагалоскі пра нібыта маю "здраду" ідуць. Кароль іх падтрымлівае, каб апраўдаць сваю капітуляцыю перад Карлам Густавам. Гансеўскі супраць мяне інтрыгуе. Звоняць на ўсю Польшчу, што нібыта мая змова са шведамі даўно задумана. Няхай д'ябл забярэ маю душу, калі зносіўся я са шведамі даўно! Ад таго часу зачалася гэта справа, калі інакшай ратавацца і Княства ратаваць спосабу не стала. За тое цяпер відавочна, што не паспеюць забраць маскавіты, тое захопяць шведы. А сапраўдныя перамовы з паслом Карла Густава будуць пры табе ці з тваім удзелам. Тут ты ўжо выбірай...

**Радзівіл Багуслаў.** Не крыўдзі мяне, Януш. Я быў і застануся з табой. Застануся на тым баку, які ты прымеш.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2. 05. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 934.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.